

# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №3 (130)
ЛЮТЫ 2013 ГОДА

**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўлены грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ЗРАНІЦЫ–СІГНАЛ, ІМГНЕННА–ЗАГАД, А ЎВЕЧАРЫ–ГАТОВА

**Любяць тутэйшыя людзі пажаліцца начальству на непарадак і неўладкаванасць навакольнага жыцця. Як дазволілі ім пры камуністах жаліцца, так гэтая жальба дасёння і коціцца. Жаляцца раённым кіраўнікам, дэпутатам, абласному і рэспубліканскаму кіраўніцтву, а канца-краю ў вырашэнні народных праблемаў чамусьці не відаць. І ніхто не задумваецца над тым, у чым жа прычына бясконцых праблемаў, і што трэба зрабіць істотнага, каб праблемы тыя ў большыні сваёй калісьці вырашыліся.**

Нязводным жа "праўдарубам", якім баліць за народныя пакуты і несправядлівасці, для выказвання набалелага ўладай выдзяляюцца нават адпаведныя дні. Ну, пагатоў, як у таго псіхатэрапеўта–рэлаксацыя, аўтатрэнінг і гіпноз у адным флаконе. Прыйшоў, выказаўся, выпусціў пару, атрымаў запэўненне ў неадкладным вырашэнні і сышоў з верай у добрага кіраўніка, які здольны вырашыць амаль усё.

А вось жаліцца ў іншы, не вызначаны уладамі час, бывае нават небяспечна. Так працаўніца адной з брэсцкіх фабрыкаў пажалілася Лукашэнку на свой мізэрны заробак і цяжкае жыццё-быццё, дык яе фабрычнае кіраўніцтва аб'явіла вар'яткай, а калектыву забараніла з ёю усялякія кантакты.

Давайце прасочым за тым, на якія ж праблемы наракаюць жыхары раёна.

Так жыхары в. Сасноўка скардзяцца, што на вул. Камуністычнай не чысцяцца смецевыя кантэйнеры. Маўляў, дыспетчар УП ЖКГ "Вітрайкамгаса" заяўку зафіксаваў, але на працягу 8 дзённяіх мераў не прымалася. А вось, калі пра праблему даведаўся старшыня райвыканкама, то запатрабаваў ад дырэктара дадзенай арганізацыі не толькі вырашэння, але йаналізу сітуацыіды строгагавыканання рэжыму вывазу смецця.

Запатрабаваў ён таксама і тэрміновагарамонтуля дома № 17 на вул. Сельскайув. Калінава калонкі, якая не працуе два месяцы.

Я ўжо думаю, можа трэба было б даўно пераарыентаваць працу мясцовага кіраўніцтва на іншую лагічную схему, якая вынікае з прапагандуемай СМІ прадукцыйнасці розных там наўпроставых ліній і прыёмаў : кожны грамадзянін, абцяжараны праблемай, мусіць пажаліцца наўпрост старшыні райвыканваму, той дае загад кіраўнікам службаў, а тыя ў сваю чаргу непасрэдным выканаўцам – аператыўна, эфектыўна, вынікова. Зраніцы – сігнал, імгненна –загад, а ўвечары–гатова.

А што гэта менавіта так вынікае з наступнага прыкладу. Такжыхаркав. Вымна паведаміла, што ў ейным доме № 1 па вул. Углоўскага другую зіму не грэе батарэя на кухні. Камунальная служба яшчэ ўвосень запэўнівала, што вырашыць праблему, але абяцанне не выканана. А чаму не выканана? Усё проста: жанчына змарнавала час, цярпела, спадзявалася, а пажалілася б своечасова каму трэба – даўно б забыла пра свае камунальныя беды.

Далей проста пералічым спіс праблемаў, з якімі грамадзяне звяртаюцца да начальства:

пад'езд не асвятляецца; людзі не могуць узаконіць сваё пражыванне; аўтакрама бройлернай птушкафабрыкі не заязджае ў аддаленую вёску; у аўтакраме хлеб не заўсёды свежы;вяскоўцы не маюць зручнай магчымасці набыць курыны камбікорм; асартымент прапануемых хлеба-булачных, мясных вырабаў і іншых тавараў не задавальняе пакупнікоў; маршрутнае таксі не даязджае да канцавога прыпынку; трэба засыпаць вялікія ямы на дарозе;адсутнічае вулічнае асвятленне…

Самымі значнымі з агучаных у прэсе за апошні час праблемаў зьяўляецца асфальтаванне 200-300 метраў дарогі ад цэнтральнай трасы да в. Бернікі ды зварот буфетчыцыЯнавіцкай лякарні да першага намесніка Старшыні Камітэта дзяржкантролю. Установа, па яе словах, разлічана на 25 коек, а ў апошні час лік ляжачых павялічыўся да 44. Пры гэтым зарплата ў працаўнікоў засталася ранейшай.

Пра што ж нам можа сказаць аналіз агучаных праблемаў – усе яны ў пераважнай масе даволі дробязныя і маглі б быць вырашаны без звароту да першай асобы раёна, але толькі пры адной умове: калі б грамадзяне жылі ў дэмакратычнай дзяржаве. Тады б не ўлада трымала ў руках усе вагары ўплыву, а народ уплываў на ўладу і ўсе службы, добрае самаадчуванне якіх наўпрост бы залежала ад ацэнкі іх работы насельніцтвам. Пры гэтым раённыя службы былі б цалкам забяспечаны сродкамі неабходнымі для вырашэння іхніх абавязкаў. Ну, так, як у цывілізаваным свеце бывае – мы ж, як той кажа, " у цэнтры Еўропы", а не абы дзе!

Па сутнасці справа неэфектыўнай працы раённых службаў палягае ў савецкай сістэме арганізацыі ўсяго нашага лада жыцця. То бок сістэма даўно не працуе і павінна быць зменена, а ўлада і частка народа робіць выгляд, што пацыент хутчэй жывы, чым мёртвы.

І пакуль няма патрэбы ў пераменах і ва ўсведамленні прычынаў такога неэфектыўнага стану, да тае пары нічога не зменецца ні ў працы ўсяе гэтае коснае сістэме, ні ў вырашэнні наспелых праблемаў, якія толькі будуць павялічвацца, бо людзі тут не жывуць, а імітуюць жыццё.

**Рэдактар**

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# СПРАВА ЎЗЯТА ПАД АСАБІСТЫ КАНТРОЛЬ

**Пракурор Першамайскага раёна Віцебска старэйшы дарадца юстыцыі Ю. Раманоўскі, разгледзеўшы матэрыялы праверкі па факце прычынення цялесных пашкоджанняў сябру партыі БНФ Аляксею Гудзіліну, прыняў пастановупра ўзбуджэннекрымінальнай справы паводле артыкулу 153 КК РБ.**

Такая пастанова была прынятая пасля заявы ў пракуратуру Віцебскай вобласці старшыні віцебскай абласной рады партыі БНФ Леаніда Аўтухова з просьбай да пракурора ўзяць пад асабісты кантроль выніковасць следча-вышуковых мерапрыемстваў па выяўленні і прыцягненні да адказнасці вінаватых у злачынстве.

Як ужо паведамлялася, сябра партыі БНФ Аляксей Гудзілін быў збіты 14 снежня 2012 году. На яго быў здзейснены напад двума невядомымі мужчынамі, якія вонкава і паводзінамі нагадвалі супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Адзін з іх мімаходзь паказаў нейкі дакумэнт, падобны да пасведчання праваахоўніка. Невядомыя сілай прымусілі актывіста сесці ў салон, а самі размясціліся па абодва бакі ад яго.

На пытанне хлопца пра тое, што адбываецца, прагучаў адказ: "Не хадзі ў БНФ і не займайся тымі рэчамі, што цябе не тычацца, а то лезеш і ў тэлевізар, і ў газэты…" Пасля гэтага той, хто сядзеў праваруч, двойчы ўдарыў актывіста кулаком у твар. З носа пацякла кроў. Збітага маладога чалавека нападнікі выкінулі з машыны, а самі зніклі ў невядомым напрамку. У той самы дзень "Хуткая дапамога" даставіла Аляксея Гудзіліна ў абласны шпіталь, дзе лекарамі быў выстаўлены дыягназ "Закрыты пералом костак носу".

Як адзначаецца ў пастанове пракурора, справы наконт злачынстваў, прадугледжаных артыкулам 153 Крымінальнага кодэксу (наўмыснае прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання), зьяўляюцца справамі прыватнага абвінавачання і ўзбуджаюцца асобамі, што пацярпелі ад злачынства. Аднак пракурор мае права таксама ўзбуджаць такога кшталту справы, нават пры адсутнасці заявы пацярпелага, калі дзеянні вінаватай асобы закранаюць істотныя інтарэсы дзяржавы і грамадства, законныя інтарэсы грамадзянаў. Крымінальная справа для далейшага расследавання накіраваная ў Першамайскі райаддзел Следчага камітэту РБ.

**Якаў Дрозд**

ЖЫЦЦЁ НАДЗЁННАЕ

# ПРАБЛЕМЫ З ВОДАЗАБЕСПЯЧЭННЕМ

**Як паказвае аналіз даступнай інфармацыі ў Віцебскім раёне існуюць пэўныя праблемы з водазабеспячэннем насельніцтва.**

Так у в. Міхайлова Вымнянскага сельсавета існуе занепакоенасць насельніцтва застацца за бортам праграмы "Чыстая вада", бо ў лістападзе мінуў некалькі разоў ужо перанесены тэрмін выканання абяцанняў па складанні праектна-каштарыснай дакументацыі на будаўніцтва сетак водазабеспячэння. А ў снежні планавалася прыступіць да падрыхтоўкі свідравіны.

Вялікая праблема з вадой існуе і ў в. Прысушына. Хутка будзетры месяца, як населены пункт абязводжаны. Магутнасцяў адрамантаванай вежы на ўсю вёску катастрафічна бракуе.

Існуе і наспелая неабходнасць падлучэння в. Андронавічы да гарадскога вадаправода. Асноўныя працы ўжо зроблены, працы па падлучэнні вядуцца, пытанне, як быццам бы, знаходзіцца на кантролі ў аддзеле жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама, але ніхто не скажыць, калі тое падлучэнне адбудзецца.

**Ян Сведка**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АКТЫВІСТЫ АБСКАРДЗЯЦЬ ПРЫСУД

**У Віцебску 21 лютага прайшоў суд над актывістамі аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Аляксеем Кішчуком і Стасам Лаўрэнавым, якіх затрымалі 16 лютага падчас "Хвалі салідарнасці"**

Адвакат знайшоў у матэрыялах справы мноства працэсуальных парушэнняў, дапушчаных супрацоўнікамі міліцыі. У прыватнасці, міліцыянты для "аб'ектыўнасьці" прыплялі да матэрыялаў справу жанчыну, якая нібыта была сведкам затрымання, паведаміла віцебская каардынатарка БХД Тацццяна Северынец, якую за спробу сфатаграфаваць рэчавыя доказы выдалілі з залі суду.

У сваю чаргу сведка з боку падабаронных заявіў, што міліцыянты, затрымліваючы актывістаў, парушылі ўсе магчымыя правілы дарожнага руху, едучы на машыне па тратуары. Пададзеные міліцыянтамі відэа затрымання ня выявіла ніякіх пярэчнняў са словамі сведкі пра дзеянні міліцыянтаў. У выніку суддзя прысудзіла актывістам штраф у памеры 30 базавых велічынь кожнаму. Аднак сябры БХД маюць намер абскарджваць гэты прысуд.

Адзначым, што Лаўрэнаў і Кішчук самі высунулі міліцыянтам сустрэчную позву за незаконнае ўтрыманне ў ІЧУ – маральную шкоду яны ацанілі ў 15 і 14 тыс. эўра адпаведна. Хлопцы трымаліся на судзе бадзёра, паводзілісябе годна.

**Ян Сведка**

# ПРАДКАЗАЛЬНАЕ РАШЭННЕ СУДА

**Кастрычніцкі раённы суд Віцебску разгледзеў грамадзянскую справу паводле пазову сябра КХП-БНФ Яна Дзяржаўцава супраць намесьніка гендырэктара УКВП «Віцебская гарадзкая ЖКГ» Вадзіма Ільінца. Суддзя Вікторыя Лешчанка пазоў аб кампэнсацыі маральнай шкоды не задаволіла. Не было задаволенае і патрабаванне пазоўнай заявы аб вынясенні асобнага вызначэння ў дачыненьні да Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту пра неабходнасць ўзмацнення кантролю над выкананнем патрабаванняў дырэктывы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 2.**

Надумку палітыка, чыноўнік, які не заключыў з ім дамову на прыборку тэрыторы пасля правядзення меркаванага шэсьця і мітынгу, парушыў яго грамадзянскія і палітычныя правы ды прычыніў яму маральную шкоду.

Ян Дзяржаўцаў вымушаны быў звярнуцца ў суд пасля таго, як у якасці адказу на заяву ў «Віцебскую гарадзкую жыльлёва-камунальную гаспадарку» наконт заключэньня дамовы аб прыборцы тэрыторыі пасьля правядзення масавага мерапрыемства атрымаў чарговую адпіску за подпісам Вадзіма Ільінца. Апошні папросту «адфутболіў» заяўніка, напісаўшы, што па заключэнне дамоваў трэба звяртацца не ў яго ягонае прадпрыемства, а ў іншыя арганізацыі – «Гардармост» і «Зелянгас».

Згодна з рашэннем Віцебскага гарвыканкаму № 88, калі нехта хоча зладзіць мітынг, пікет ці вулічнае шэсьце,то да заявы аб правядзенні масавага мерапрыемства яму трэба прыкласці копіі дамоваў аб прыбіранні тэрыторыі з УКВП «Віцебская жыльлёва-камунальная гаспадарка», а таксама з мэдыкамі і міліцыянтамі на абслугоўванне падчас мерапрыемства.

Дамагчыся заключэння патрэбных дамоваў з названымі службамі не здолеў яшчэ ніхто. У выніку чаго ўсе акцыі апазіцыянераў, праваабаронцаў і грамадзкіх актывістаўужо цягам некалькіх гадоў забараняюцца мясцовымі ўладамі.

Так здарылася і чарговым разам. Каб зладзіць акцыю, запланаваную на 7 лістапада 2012 году, Ян Дзяржаўцаў папрасіў УКВП «Віцебская жыльлёва-камунальная гаспадарка» і іншыя службы заключыць з ім дамовы, без якіх нельга атрымаць дазволу на правядзенне акцыі. Але адбылося, як заўсёды: ніхто, спасылаючыся на розныя прычыны, дамоваў заключаць не стаў. Само сабой , што з прычыны адсутнасьці дамоваў гарвыканкам акцыю забараніў.

Ян Дзяржаўцаў лічыць, што калі існуе рашэнне гарвыканкаму № 881, дык яго павінны выконваць не толькі грамадзяне, што хочуць зладзіць масавае мерапрыемства, але і ўстановы, пералічаныя ў рашэнні, з якімі неабходна заключаць дамовы. На яго думку, і ЖКГ, і міліцыя, і лекары, адмаўляючыся заключаць дамовы, парушаюць правы грамадзянаў, гарантаваныя Канстытуцыяй і міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Невядома, чым кіравалася суддзя Лешчанка, прымаючы сваё рашэнне, але відавочна, што гэткім чынам яна развязала рукі чыноўнікам, дала ім магчымасць і надалей на ўласны одум не заключаць дамоваў з палітычнымі і грамадзкімі актывістамі на абслугоўванне масавых мерапрыемстваў і пазбаўляць іх тым самым права ладзіць мірныя сходы і публічна выказваць свае думкі.

**Якаў Дрозд.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# АРЛОЎ НАВЕДАЎ ВІЦЕБСК

**7 лютага пісьменнік, паэт і гісторык Уладзімер Арлоў прэзентаваў у Віцебску свае вядомыя кнігі «Свецяцца вокны, ды нікога за імі», «Пакуль ляціць страла», «Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя», «Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя», а таксама аўдыёверсію кнігі «Імёны Свабоды»**




На сустрэчу з пісьменнікам, што ладзілася ў Віцебскай абласной бібліятэцы, прыйшло больш за 100 чалавек – мясцовыя літаратары, студэнты, настаўнікі, грамадзкія актывісты. Імпрэза адбылася ў межах кампаніі «Будзьма беларусамі!».

На пачатку творчай сустрэчы аўтар кнігі «Пакуль ляціць страла» прапанаваў прысутным паўдзельнічаць у своеасаблівай віктарыне паводле гэтай кнігі. Пераможцы атрымалі прызы.

Уладзімер Арлоў прысвяціў сваю сустрэчу з чытачамі 150-годдзю паўстання Кастуся Каліноўскага. Ён перадаў у залю стос чыстых аркушаў: «Гэтыя аркушы – прыкладна такога самага памеру, якога былі кавалкі паперы, на якіх Каліноўскі пісаў Лісты з-пад шыбеніцы. Вы можаце напісаць на іх свае пытанні мне, той самай мовай, якой пісаў Кастусь Каліноўскі».

Пытанні да пісьменніка былі самыя разнастайныя – наконт яго асабістага жыцця, творчых планаў, гісторыі, культуры. Адказы Уладзімера Арлова ўражвалі слухачоў сваёй трапнасцю і дасціпнасцю. Напрыканцы імпрэзы паэт прачытаў некалькі вершаў са зборніка «Свецяцца вокны», а завяршылася сустрэча, як і заўсёды, аўтограф-сэсіяй.

**Ян Сведка**

КРЫМІНАЛ

# КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА РАСКРЫТА..?

**Як паведамляецца, раскрыта крымінальная справа, узбуджаная па факце хуліганскіх дзеянняў з выкарыстаннем саматробнай выбуховай прылады ля адміністрацыйнага будынка ўправы КДБ Беларусі па Віцебскай вобласці. У здзяйсненні злачынства вінаваціцца жанчына, якая раней ужо была асуджана за пашкоджанне маёмасці, хуліганства і крадзяжы**

Падчас агляду месца здарэння былі знойдзены шматкі металу, якія з'яўляюцца фрагментамі слоіка з-пад энергетычнага напоя, клейкай стужкі і іншыя рэчыўныя доказы, якія нібыта, дазваляюць ідэнтыфікаваць асобу, якая здзейсніла злачынства. Праведзеныя экспертныя даследаванні і следчыя дзеянні дазволілі зрабіць выснову нават пра палавую прыналежнасць падазраванага і наяўнасці ў яго ці яго блізкіх вызначанага захворвання. Падчас следства былі вывучаны матэрыялы праверак па ўсіх фактах хуліганскіх дзеянняў з выкарыстаннем піратэхнічных прылад, якія маюць месца ў Віцебскай вобласці. У выніку праведзенай працы ў поле зроку следчых трапіла жыхарка Віцебску 1970 г.нараджэння. У рамках расследавання крымінальнай справы па месцы жыхарства апошняй неадкладна быў зробленыператрус. Следчымі УСК Беларусі па Віцебскай вобласці і аператыўнымі супрацоўнікамі ЎУС Віцеблвыканкама былі выяўлены сшыткаў з запісамі ад рукі пра выбуховыя рэчывы, спосабах вырабу выбуховых сумесяў; знойдзены каля ста петардаў, у тым ліку раскамплектаваныя; пнеўматычны пісталет; палімерныя слоікі; клейкая стужка; сыпкія рэчывы рознай этымалогіі, у тым ліку салетра, а таксама іншыя прадметы, аналагічныя тым, што былі знойдзены падчас агляду месца здарэння.

Аднак пад час правядзення допыту затрыманая ад дачы сведчанняў адмовілася, аднак наяўнасць у справе атрыманых доказаў дазволіла прыцягнуць віцяблянку ў якасці абвінавачванай па крымінальнай справе па ч.3 арт.339 УК Рэспублікі Беларусь. У адносінах да арыштаванай абрана мера ўтрымання ў выглядзе зняволення пад варту.

Папярэдняе следства па крымінальнай справе працягваецца, дадаткова запланаваны шэраг следчых дзеянняў і аператыўных мерапрыемстваў.

**Ян Сведка**

# ШЭСЦЬ ГАДОЎ ЗА ЗАБОЙСТВА

**Шэсць гадоў у выпраўленчай калоніі агульнага рэжыму за забойства свайго знаёмага правядзе асуджаная віцябчанка. У жыцці 29-гадовай жанчыны гэта не першы прысуд.За ухіленне ад выхавання дваіх непаўнагадовых дзяцей жанчыну ўжо пазбавілі бацькоўскіх правоў. Асуджаная вяла антыграмадскі лад жыцця, злоўжывала спіртовымі напоямі**

Ліпеньскім вечарам гутарка ў кватэры па вул. Савецкай у в. Доўжа вялася на падвышаных тонах. Пакрыўджаная жанчына пачала ў прамым сэнсе слова разбураць усё, што траплялася ёй пад гарачую руку. Дасталася нават хатнім раслінам, якія раз'юшаная маладзіца кідала ў свайго знаёмага. Рукой разбіла акно. Шкло разляцелася на сотні аскепкаў. Адзін з іх блiснуў у руках жанчыны. Яго яна абрала ў якасці апошняга аргументу на карысць сваёй праваты.

Жанчына нанесла свайму крыўдзіцелю некалькі колата-рэзаных ранаў. Моцная крывацеча, якую ніхтоне спыніў стала непасрэднай прычынай смерці мужчыны.

У крымінальным заканадаўстве такія дзеянні кваліфікуюцца, як наўмыснае супрацьпраўнае пазбаўленнежыццяіншагачалавека (забойства). За сваю запальчывасць Святлана заплаціла ўласнай воляй. Суд прысудзіў яе да шасці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў выпраўленчай калоніі агульнага рэжыму і штрафу ў памеры 830 тысячаў рублёў.

**Ян Сведка**

ЗДАРЭННІ

# ПРАВЕРКА НА ДАРОГАХ

**За дванаццаць месяцаў мінулага года на тэрыторыі раёна зарэгістравана 49 ДТЗ, у якіх загінулі 17 удзельнікаў дарожнага руху, атрымалі траўмы рознай ступені цяжару 51 чалавек.У большасці сваёй вінаватымі ў ДТЗ сталі віцябчане – 24 дарожных здарэнні. У 13 выпадках занядбалі правілы дарожнага руху сельскія жыхары**

У чым жа прычыны такой колькасць ДТЗ?

Пешаходы–адна з самых небяспечных катэгорый сярод удзельнікаў дарожнага руху. Зіхудзелам за мінулы год у раёнезарэгістравана 14 ДТЗ. Галоўнай прычынай наезду кіроўцаў у большасці выпадкаў адмысловцыназываюцьадсутнасць бачнасці. Асаблiва вострa гэта праблема стаіць па-за горадам, на дрэнна асветленых ці наогул не асветленых дарогах. Прычым колькасць наездаў на пешаходаў са смяротным зыходам, якія адбыліся ва ўмовах дрэннай бачнасці, у тры разы большая за тыя, што здарыліся днём. Часта прычынай такіх наездаў зьяўляецца адсутнасць у пацярпелых звычайнага флікера.

У мінулым годзе затрыманыя 120 кіроўцаў, якія кіравалі транспартам у стане алкагольнага ап'янення. Аматары сесці за руль у нецвярозым стане сталі ўдзельнікамі 8 ДТЗ, сярод іх злоўжываюць кіраваннем нападпітку кіроўцы дзяржтранспарту, працаўнікі сельгасарганізацый і іншых прадпрыемстваў раёна.

Выяўлены і факты, калі на лінію выпускаюццакіроўцы,якіянемаюць права кіравання ці знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення, і не праходзяць перадрэйсавы медагляд. За такія правапарушэнні складзена 36 адміністрацыйных пратаколаў на службовых асобаў па арт. 18.25 КОАП РБ. Так, на пад'ездзе да в. Вымна затрыманы памочнік камбайнёра, які кіраваў камбайнам у стане алкагольнага ап'янення.

Вядомы выпадкі, калі кіроўцы і трактарысты выязджалі на лінію без пуцявыхлістоў. То бок, відавочна, адсутнасць працоўнай дысцыпліны і грэбаванне сваімі службовымі абавязкамі–наўпростаы шлях да магчымага ДТЗ.

**Якаў Дрозд**

АДВАРОТНЫ БОК

# ДАДАТКОВЫ СРОДАК РУСІФІКАЦЫІ

**За часамі Лукашэнкі чыноўнікі ад культуры прыдумалі новы від бібліятэчнай паслугі: аддаленыя вёскі наведвае бібліятэка на калёсах– "бібліёбус"( пераабсталяваная для гэтае мэты " Газэль"). Гэткім чынам, як мяркуецца, культура прасоўваецца ў масы. Падобны від паслугі існуе і ў Віцебскім раёне. Прычым галоўны прынцып працы падобных перасоўныхбібліятэкаў даволі амбітны: "Кнігу – у кожную хату".**

Прынцып, на першы погляд, даволі добры. Але вось толькі якую кнігу?

Сёння ў раёне мабільная бібліятэка курсуе па 10-ці адмыслова працаваных маршрутах (хутка з'явіцца яшчэ адзін). Перасоўная бліятэка абслугоўвае 25 вёсачак раёна і наведвае сваіх чытачоў раз на месяц у сераду ці пятніцу.

Як паведамляецца, летась ажно 660 вяскоўцаў скарысталіся паслугамі бібліёбуса. Прычым тым чытачам, якія не могуць дабрацца да месца стаянкі "перасоўнае бібліятэкі", літаратура развозіцца па хатах.

Большасць выданняў дастаўляецца пад замову. Першачарговым попытам карыстаюцца дэтэктывы, гістарычныя раманы, перыёдыка лячэбнай і "садовагародніннай" скіраванасці. А адна жыхарка з в. Княжыца скарысталася нават магчымасцю замовіць аўдыёкніжку з беларускай класікі. Зьява і зусім выключная ў спрэс зрусіфікаваным асяроддзі.

Здавалася б, трэба толькі парадавацца завяскоўцаў, для якіх прыезд бібліёбуса– "сапраўднае свята". Сярод правінцыйнай аднастайнасці чытанне –хоць нейкая забаўка і пазітыўны занятак.

Але давайце задумаемся над прыхаванай мэтай усяе гэтае альтруістычнае, на першы погляд, працы. Задумаемся, навошта дзяржава выдзяляе для гэтага немалыя па сённяшнім часе сродкі, не патрабуючы ад чытачоў, хаця б нейкай сімвалічнай аплаты за атрыманыя паслугі.

Пры праўдзівым жаданні атрымацьадказнапастаўленае пытанне, зрабіць гэта будзе няцяжка, бо адказ ляжыць на паверхні і лёгка ўкладваецца ў ідэалагічную парадыгму тутэйшае прарасейскае ўлады. Калі вы параўнаеце аб'ём расейкамоўнага і беларускамоўнага тэлерадыёвяшчання, колькасць школаў з навучаннем на "языке" і мове, чытацкую запатрабаванасць літаратуры, напісанайпа-беларуску і па-руску, то стане відавочным: "бібліёбус"–яшчэ адзін дадатковы сродак русіфікацыі вёскі, якая ўсё яшчэ, хоць і з нейкімі абмоўкамі, застаецца беларускамоўнай.

**Якаў Дрозд**

ЗОНА БЯСПРАЎЯ

# ГІСТОРЫЯ З РАБСТВАМ НІЧАМУ НЕ НАВУЧЫЛА

**Пяцёра вызваленых «дагестанскіх рабоў» вярнуліся ў Беларусь. Двое зіх– жыхары Віцебскага раёна. Уладзімер Арэшчанка з пасёлка Руба прыехаў дахаты ўвечары 29 студзеня, а ягоны брат па дарозе трапіў у аршанскую лякарню**

Амбасада РБ у Маскве выдала даведку, дзякуючы якой яны маглі даехаць дадому бясплатна на электрычцы. Але былыя "рабы" вырашылідабірацца цягніком і набылі квіткі за свае грошы, бо гэта значна скарачала шлях.

Гісторыя Уладзімера падобная на тысячы няўдалых спробаў зарабіць добрыя грошы на чужыне.Прыехаўшы ў Маскву на заробкі патэнцыйны працаўнік трапляедаагітатара,які прапануе свае ўмовы працы і яе аплаты. Пагадзіўшыся з высунутымі ўмовамі, гастэрбайтэры з Беларусі селі ў аўтобус і апынуліся … ў Махачкале на цагельні. Працавалі і ў снег, і ў мароз па 12 гадзінаў, без выходных. Праца была нялёгкая, працоўны на канвееры, даводзілася здымаць цэглу на стол. Кармілі дрэнна, Уладзімер схуднеў на 17 кілаграмаў. Мыліся пад вадаспадам, лазні не было, завяліся вошы. Жылі на заводзе ў памяшканні, якое не ацяплялася. У снежні было да мінус пяці марозу пры вятрыску, ад якога калоцецца будынкі.

Уцячы з заводу не было аніякай магчымасці. Выратавацца ўдалося зусім нечакана, калі Уладзімеравага брата «здавалі ў арэнду» на іншы завод. А туды якраз прыехалі сябры расейскай моладзевай групоўкі «Альтэрнатыва», якія і дапамаглі вызваліцца з няволі.

Гісторыя з рабствам, у якое трапілі беларускія небаракі, не адбіла ва Уладзімера ахвоты зарабіць добрыя грошы. Ён ізноў збіраецца ехаць у Расею, дзе пастараецца ўладкавацца афіцыйна. А ўся справа ў тым, што ў Беларусі ён не бачыць для сябе аніякіх перспэктываў.

**Якаў Дрозд**

**• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Пакліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.**

**• Рэдакцыя «Пакліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.**

**• Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Пакліч волі».**

**Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам**

УЛАДУ НАРОДУ!

# ВЫБАРЧАЯ КАСМЭТЫКА — КАБ СПАДАБАЦЦА КРЭДЫТОРАМ

**Кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка лічыць магчымым палепшыць выбарчае заканадаўства краіны. Пра гэта ён заявіў падчас нарады, прысвечанай гэтай тэме. Незалежныя эксперты, якія прааналізавалі прапанаваныя ўладай папраўкі да Выбарчага кодэксу, лічаць іх не прынцыповымі, а выключна касмэтычнымі. Бліжэйшыя выбары ў Беларусі — дэпутатаў мясцовых саветаў — павінны адбыцца не пазьней за 23 сакавіка 2014 году. Цэнтральная выбарчая камісія ўжо пачала да іх падрыхтоўку.**

На сёньняшняй нарадзе старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына прадставіла прапановы па зьмяненьнях і дапаўненьнях у Выбарчы кодэкс, якія падрыхтавалі эксперты камісіі. А вось эксперты апазыцыі, якія мелі магчымасьць дазнацца пра сутнасьць гэтых правак раней, ужо назвалі іх «выключна касмэтычнымі».

Галоўная навэла — магчымасьць вылучаць кандыдатаў у дэпутаты ня толькі палітычным партыям, як гэта робіцца цяпер, але і грамадзкім арганізацыям з колькасьцю чальцоў ня меней за адну тысячу — зьдзівіла нават Лукашэнку. Падчас нарады ён запытаўся: "А навошта гэта? У нас што, ёсьць дэфіцыт кандыдатаў?"

Іншыя навацыі зусім дробныя. Так, асабістыя фінансавыя рахункі дазволяць мецьі кандыдатам у мясцовыя саветы, а ўлёткі з заклікам да байкоту выбараў выдаваць будзе можна толькі за асабістыя грошы кандыдатаў.

«Для таго, каб выбары ў Беларусі хаця б наблізіліся да дэмакратычных стандартаў, трэба рабіць зусім іншае», — кажа юрыст Уладзімер Лабковіч:

«Першае — унесьці прынцыповыя зьмены ў закон. І другое — забясьпечыць практыку іх выкананьня. Што найперш трэба мяняць у Выбарчым кодэксе? Фармаваньне камісіяў — палітычныя партыі павінны атрымаць права накіроўваць у іх сваіх людзей наўпрост.

Наступны момант — датэрміновае галасаваньне, якое павінна быць альбо цалкам адмененае, альбо ўдзельнічаць у ім змогуць толькі тыя людзі, хто ні ў якім выпадку ня можа зрабіць гэта ў дзень галасаваньня.

І трэці момант — падлік галасоў. І сябры камісіяў, і назіральнікі павінны ясна бачыць, што бюлетэнь аддадзены на карысьць таго кандыдата, за якога прагаласаваў выбарца.

Гэтыя тры зьмены і дасканалая практыка іх прымяненьня могуць зрабіць правядзеньне выбараў больш свабодным і дэмакратычным. А ў зьвязку з гэтым вырас бы і давер да тых органаў улады, на якіх яны фармуюцца».

«Рыторыка Аляксандра Лукашэнкі прывязаная не да дзеяньняў, а да сытуацыі», — лічыць старшыня АГП Анатоль Лябедзька: «Я нагадаю, летась перад пачаткам парлямэнцкай кампаніі, калі была патрэбная хоць нейкая легітымізацыя выбараў, Аляксандар Лукашэнка ў інтэрвію кітайскаму журналісту заявіў, што мы будзем праводзіць палітычную рэформу пасьля завяршэньня гэтай кампаніі. Кошт гэтых словаў нулявы, таму што кампанія скончылася, а рэфармаваньнем і ня пахне.

Сёньня яму патрэбныя грошы, крэдыты. Пад іх робяцца новыя заявы. Не пад рэформы, не пад рэальныя зьмены ў выбарчым заканадаўстве і праваприымяняльную практыку. А пад неабходнасьць атрымаць грошы».

**Уладзімер Глод**
**"Радыё Свабода"**

НЕ ЗАБЫЛІ ПРА СЯБЕ

# ВЫСОКІМ ЧЫНОЎНІКАМ РЭЗКА ПАВЫСІЛІ ЗАРПЛАТЫ

**Віцэ-прэм'еры і міністры РБ, а таксама іншыя чыноўнікі атрымалі істотную прыбаўку да сваіх міністэрскіх заробкаў за кошт рэзкага павышэння сумы ўзнагароджання на «другой працы»**

Згодна з указам № 74 ад 8 лютым 2013 года нарматывы ўзнагароджання чыноўніка за нагляд над прадпрыемствам былі павышаны з 6 да 20 базавых велічынь у квартал пры рэнтабельнасці прадпрыемства да 10% уключна; з 9 да 25 базавых велічынь - пры рэнтабельнасці ад 10% да 15% уключна ; з 15 да 45 базавых велічынь - пры рэнтабельнасці ад 15% да 25% уключна; з 18 да 55 базавых велічынь - пры рэнтабельнасці звыш 25%.

Самае вялікае павышэнне дадатковага заробку будзе ў чыноўнікаў, якія прадстаўляюць інтарэсы дзяржавы ў банках - нарматыў павышаны з 25 да 75 базавых велічынь у квартал.

Гэтым жа ўказам № 74 заканадаўча замацавана права віцэ-прэм'ераў РБ на дадатковы заробак у камерцыйных прадпрыемствах...

«Прадстаўнікі дзяржавы ў органах кіравання банкаў, акцыі якіх належаць Рэспубліцы Беларусь, прызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам», - гаворыцца ва ўказе.

Літаральна напярэдадні падпісання ўказу № 74 Саўмін сваёй пастановай № 85 ад 6 лютага 2013 ўнёс новых членаў урада і міністраў у «ведамасць» на атрыманне дадатку да афіцыйнага акладу.

Так, віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч прызначаны прадстаўніком дзяржавы ў ААТ «БПС-Ашчадбанк». У сваю чаргу віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы і міністр сельскай гаспадаркі Леанід Заяц будуць карміцца за кошт ААТ «Белаграпрамбанк». Нагадаем, што прэм'ер РБ Міхаіл Мясніковіч «падзарабляе» у Банку развіцця, а першы віцэ-прэм'ер У.Сямашка - у Прыёрбанку.

Варта адзначыць, што ўказам № 74 прыкметна пашыраны паўнамоцтвы ўрада на кіраванне буйнымі прадпрыемствамі. Так, у выпадку адчужэння якія знаходзяцца ва ўласнасці прадпрыемства з доляй дзяржавы больш за 50% аб'екта нерухомасці або пакета акцый коштам звыш 10 тысяч базавых велічынь Саўміну больш не трэба ўзгадняць сваё рашэнне (пазіцыю) з А.Лукашэнка.

**afn.by**

НЕ КУРЭННЮ!

# ПАКАРАЛІ ЗА КУРЭННЕ Ў ПАД'ЕЗДЗЕ

**Сусед сфатаграфаваў курца ў пад'ездзе, і таго аштрафавалі на 1 мільён рублей**

Па правілах карыстання жылымі памяшканнямі, паліць можна толькі ва ўласнай кватэры. На лесвічных пляцоўках, у агульных тамбурах, ліфтах і вестыбюлі - забаронена

Пра тое, што курэнне ў пад'ездзе забаронена, ведаюць усе. Аднак заўзятыя курцы ўсё роўна працягваюць дыміць на лесвічных пляцоўках, адмахваючыся ад папрокаў суседзяў. Маўляў, вазьмі і дакажы, што я палю! Але на мінулым тыдні суд Маскоўскага раёна Мінска асудзіў мужчыну за курэнне на лесвічнай пляцоўцы. І ўсё дзякуючы жыхару дома, які не толькі выклікаў міліцыю, але яшчэ і сфатаграфаваў парушальніка!

- Мужчына выходзіў на вуліцу з жонкай і дзіцем і сфатаграфаваў курца, калі той дыміў на пляцоўцы. Ужо затым выклікаў міліцыю, - распавяла «КП» намеснік дырэктара па ідэалагічнай працы ЖРЭА Маскоўскага раёна Мінска Юлія Альхоўцы. - Прыехалі супрацоўнікі міліцыі склалі на курца пратакол. Адміністрацыйную справу публічна разгледзеў у адной з гімназій выязной суд Маскоўскага раёна. Парушальніку далі штраф у памеры 10 базавых велічынь - адзін мільён рублёў. На судзе таксама прысутнічаў сведка - сусед курца.

Як высветлілася, мужчына, які паліў на пляцоўцы, не пражываў у тым доме, а прыходзіў у госці да знаёмых.

- У нас у пад'ездзе усе паляць! На ўсіх паверхах каштуюць банкі з недакуркамі, - кажуць жыхары таго самага дома.

Па правілах карыстання жылымі памяшканнямі, паліць можна толькі ва ўласнай кватэры. На лесвічных пляцоўках, у агульных тамбурах, ліфтах і вестыбюлі - забаронена, - кажа Юлія Альхоўцы. - У выпадку парушэння правіл прадугледжаны штрафы ад 10 да 30 базавых велічынь (ад 1 да 3 мільёнаў рублёў. - Рэд.). Але даказаць, што сусед курыць у пад'ездзе, цяжка. Патрэбна фатаграфія або відэазапіс. Да таго ж, каб прыцягнуць жыхара да адміністрацыйнай адказнасці, неабходныя паказанні сведак, напрыклад суседзяў.

**Дарья Ламаноўская**
**"Камсамольская праўда на Беларусі"**

КАРУПЦЫЯ

# ЗНАЙШЛІ КРАДЗЕНЫЯ ПРЫБІРАЛЬНІ

**Былыя міністр спорту і турызму Алег Качан і памочнік Прэзідэнта па пытаннях фізкультуры й спорту Ігар Заічкаў адкажуць за свае дваровыя прыбіральні**

Нагадаем, што пасля сходу ў Нацыянальным алімпійскім камітэце, які адбыўся ў кастрычніку 2012 года, Лукашэнка адправіў у адстаўку міністра спорту і турызму Алега Качана і памочніка прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму Ігара Заічкава. Перад гэтым на сходзе НАК кіраўнік дзяржавы жорстка крытыкаваў дзейнасць гэтых чыноўнікаў, намякаючы, што яны больш дбалі пра сваё дабро, чым аб развіцці беларускага спорту.

...Цяпер жа Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС выявіла спецыфічныя аб'екты нерухомасці, якія былі ўсталяваныя на дачных участках Качана і Заічкава за чужы кошт.

Падаздзеных ГУБЭЗ ведамства міністра Шуневіча, у чэрвені 2012 года на вытворчым лесаперапрацоўчым участку «Закрэўшчына» ДЛГУ «Уздзенскі лясгас» былі выраблены дзве дваровыя прыбіральні. Аб'екты нерухомасці выраблялiся з лесаматэрыялаў, але ў вельмі добрым, можна нават сказаць, прэзентабельным выглядзе, таму і кошт кожнай уборнай склаў 10 мільёнаў рублёў.

Дваровыя туалеты былі адлюстраваны ў бухгалтарскім ўліку прадпрыемства і ў далейшым былі адгружаны ў «Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту і конегадоўлі», размешчаны ў пасёлку Ратамка Мінскага раёна. Аднак рэальна туалеты былі даставлены ў садоўніцкае таварыства «Мая радасць» у вёсцы Закаблукі Мінскага раёна (каля 10 км ад МКАД) і пастаўлены на ўчастках Ігара Заічкава і Алега Качана.

Дзеля справядлівасці варта адразу адзначыць, што крымінальных спраў у дачыненні да Алега Качана і Ігара Заічкава пакуль не заведзена. Наадварот, фігурантамі справы сталі дырэктар ДЛГУ «Уздзенскі лясгас» і начальнік вытворчага ўчастка «Закрэўшчына» гэтага лясгаса. Менавіта ім інкрымінуецца здзяйсненне злачынства па ч.2 арт.210 Крымінальнага кодэкса Беларусі (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі).

Справа перададзена на расследаванне ў Следчы камітэт.

Па звестках «Ежедневніка», аб прыбіральнях Качана і Заічкава ўжо далажылі кіраўніку дзяржавы. Чакаюць ад яго рэакцыі.

**Георгій Дань**
**ej.by**

НАША СПАДЧЫНА

# ЗРАЗУМЕЦЬ КАЛІНОЎСКАГА

**Вакол Кастуся Каліноўскага зараз шмат спрэчак. Ангажаваныя ў нацыянальны дыскурс інтэлектуалы абураюцца, што асобныя прыдворныя гісторыкі не лічаць кіраўніка антыцарскага паўстання 1863 г. у Беларусі нацыянальным героем**



Але важна не толькі паказваць абсурднасць поглядаў абсалютна ангажаваных у расійскую традыцыю асобаў на беларускую гісторыю. Важна і самім беларусам зразумець Каліноўскага. А зразумець Каліноўскага, значыць зразумець гісторыю Беларусі XIX ст., значыць стаць патрыётамі Беларусі. Толькі, каб зразумець Каліноўскага і яго эпоху, трэба паглядзець на тое далёкае мінулае вачыма нашага героя.

Хай нікога не засмучае, што Каліноўскі змагаўся за адраджэнне ВКЛ. У той час, калі ён жыў, афіцыйнай назвы «Беларусь» для ўсяго краю не існавала. А таму ён мог змагацца толькі за тое, што было ў рэальнасці, за аднаўленне знішчанага царызмам ВКЛ.

Пра тое, што гэту адноўленую і абноўленую дзяржаву ён бачыў беларускай, сведчыць яго імкненне адрадзіць уніяцтва, якое было чужым і для палякаў і для літоўцаў, бо яны спавядалі каталіцызм. Пра гэта сведчыць і тое, што ён звяртаўся да свайго народа на яго роднай мове («браты мае, мужыкі родныя», «дарагі мой народзе») і дзеля яго ахвяраваў сваім жыццём. Ён не шкадаваў рэзкіх слоў для спаланізаваных памешчыкаў, гаварыў пра Бацькаўшчыну і дыстанцыяваўся ад Польшчы, але заклікаў сваіх «дзецюкоў» (хлопцаў) браць прыклад у барацьбе за волю з польскіх мужыкоў...

... Праблема ВКЛ і яе яго ладу зараз застаецца адной з самых карэнных у сучаснай беларускай гістарыяграфіі. Скажам тут толькі пра самае простае. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — так гучала яго поўная назва. У сучаснай сусветнай гістарыяграфіі гэту поўную назву пісаць, неяк, не прынята. Можа таму, што іначай даследчыкам, якія лічаць гэту дзяржаву літоўскай (у сучасным сэнсе) прыдзецца пераглядаць свае канцэпцыі. На маю думку, поўная назва Княства сведчыць аб вялікай ролі ў гэтай дзяржаве беларусаў, украінцаў і літоўцаў, якіх раней называлі ліцвінамі (літоўцамі), русінамі і жамойтамі. Пасля распаду Савецкага Саюза гэтыя народы вярнуліся да актыўнага нацыянальнага жыцця і сталі прэтэндаваць на ВКЛ. Спробы вырашыць праблему па прынцыпу — гэта дзяржава не ваша, а наша — аказалася зусім не прадуктыўнай і яна ніколі не прывядзе да паразумення паміж беларусамі, літоўцамі ды ўкраінцамі. Таму, на мой погляд, не варта ўвогуле даваць гэтай сярэднявечнай дзяржаве нейкае нацыянальнае вызначэнне, як гэта і рабіў Каліноўскі. Тым больш, што ў часы ВКЛ сучасных нацый і не існавала. Проста гэта была дзяржава, якая стала калыскай для трох сучасных нацыянальных дзяржаў — беларускай, літоўскай, украінскай. Усе гэтыя народы маюць права на гісторыка-культурную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

З гэтага вынікае, што беларусаў нельга лічыць негістарычнай нацыяй. Міфы пра гістарычную непаўнавартасць сучасных беларусаў, пра іх адвечным адзінстве з рускімі і пра заваёву беларусаў літоўцамі былі створаны па загаду расійскай імператрыцы Кацярыны II (1762–1796) пасля захопу Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Фальсіфікацыя падмацоўвалася жорсткай рэвізіяй і знішчэннем неадпаведных гістарычных дакументаў на працягу ўсяго перыяду існавання царызму. Хто ведаў сапраўдную гісторыю краю, не забыўся пра яе, той змагаўся з царскай няволяй. Кастусь Каліноўскі добра ведаў гісторыю свайго народа і адстойваў яго правы на гісторыка-культурную спадчыну сярэднявечнага Княства.

Дарэчы, пазней царскія міфы пераналі гісторыкі Польшчы, Літвы, Савецкага Саюза і, практычна, усяго свету. Расійская фальшыўка і зараз выдаецца ў сусветнай гістарыяграфіі за сапраўдную гісторыю Беларусі ад старажытных часоў да 1917 г.

Вобраз ВКЛ быў выціснуты з памяці беларускага народа, што вельмі аслабіла яго нацыянальны дух. Кастусь Каліноўскі добра разумеў перавагу сваёй Бацькаўшчыны над Расіяй з яе традыцыямі дэспатызму, таму ставіўся да гэтай дзяржавы з пагардай, а расійскіх сялян зваў да супольнай барацьбы супраць царызму. Гэты апошні н'юанс у поглядах Каліноўскага неяк не заўважаюць ці не ведаюць сучасныя ворагі беларускага лідэра. Складваецца ўражанне, што яны б маглі павесіць яго, як «ворага» Расіі, у другі раз.

Фактычна і ў свядомасці людзей, якія апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, заставалася адзінае для свайго Краю назва -«Літва». Накінутая ім царызмам назва «Беларусь» спачатку прыжылася толькі ў памежжы з унутранай Расіяй. Але і там (Віцебская, Магілёўская губерні) у першай палове XIX ст. інтэлектуалы лічылі сябе ліцвінамі (літоўцамі). Так, Арцём Вярыга-Дарэўскі (1816–1884) з Віцебшчыны — беларускамоўны літаратар і перакладчык паэмы Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод» — казаў, што ён — літовец, а сваю мову называў літоўскай....

Сітуацыяй і царскай палітыкай замоўчвання пра Літву скарысталіся продкі сучасных літоўцаў, якія называліся раней жамойтамі, аўкшайтамі (магчыма, што і літоўцамі). З дапамогай Прусіі яны манапалізавалі спадчыну ВКЛ разам з назвамі «Літва», «літоўцы». Царскія ўлады не перашкаджалі. Ім гэта было нават выгадна. Продкі сучасных беларусаў адхіляліся ад вялікай спадчыны. Гэта спадчына лакалізавалася на этнасе невялікім па колькасці і па займаемай ім тэрыторыі. Пазбаўленыя памяці пра сваё мінулае, беларусы лёгка потым станавіліся рускімі. Таму пачатковая перавага літоўскага нацыянальнага праекта над беларускім праектам абумоўлівалася, акрамя іншых прычын, і палітыкай Прусіі і Расіі. Яны, магчыма, спецыяльна і не падтрымлівалі літоўскі нацыянальны рух, але асабліва не шкодзілі яму. І найперш гэта адносілася да Прусіі.

Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў загадаў павесіць Кастуся Каліноўскага. Разам з ім ён знясіліў і больш перспектыўны ліцвінскі праект стварэння сучаснай беларускай нацыі. Ход далейшых падзеяў, звязаных са стратай памяці пра ВКЛ, ужо адбываўся пасля Каліноўскага....

Пасля ўсяго сказанага можа і стала больш зразумелай постаць Кастуся Каліноўскага і яго роля ў барацьбе беларусаў за свабоду. Ён хацеў адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) у якасці незалежнай ад Расіі дзяржавы для сучасных беларусаў і першым заявіў аб праве свайго народа на ВКЛ.

( у скарачэнні...)

**Захар Шыбека**
**Thepointjournal.com**

РОДНАЕ СЛОВА

# 21 ЛЮТАГА – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

Беларускія грамадскія актывісты ладзяць акцыі. Прадстаўніцтва ААН абвясціла пра фотаконкурс.

Так Зміцер Хведарук заклікае адзначаць свята мовы ў метро. Мінчукам прапануецца з 21-га па 24 лютага насіць з сабой беларускія кнігі і чытаць іх, едучы ў падземцы і, такім чынам звярнуць увагу грамадства на тое, што беларуская мова зараз знаходзіцца ў сапраўдным андэграўндзе. Гэта таксама і папулярызацыя роднай мовы. "Калі людзі пабачаць, што многія вакол чытаюць беларускія кнігі, сітуацыя з публічным ужываннем мовы хоць у нейкай ступені, але палепшыцца", -- адзначыў мінскі каардынатар Руху "За Свабоду" Юрась Меляшкевіч, які падтрымаў гэтую ідэю.

Арт-сядзіба пайшла яшчэ далей: беларусам прапануюць "пакідаць" беларускую кнігу ў грамадскім транспарце, з разлікам, што ёй зацікавіцца іншы пасажыр, пагартае яе да свайго прыпынку альбо нават прыхопіць для хатняга чытання. Паводле аўтараў ініцыятыў, такія акцыі заахвоцяць людзей да чытання беларускамоўнай літаратуры і ўвогуле прыцягне ўвагу да стану беларускай мовы ў Беларусі.

Міжнародны дзень роднай мовы не застаўся незаўважаным Прадстаўніцтвам ААН у Беларусі. Яно абвясціла прымеркаваны да свята фотаконкурс "Беларуская мова — адлюстраванне нашых думак і пачуццяў".

Дасланыя на конкурс работы павінны адлюстроўваць тэму беларускай мовы як інструмента захавання і развіцця культурнай спадчыны ў яе матэрыяльных і нематэрыяльных формах ў кантэксце моўнай і культурнай разнастайнасці і шматмоўя.

"Наша Ніва" нагадвае, што Міжнародны дзень роднай мовы быў абвешчаны Генеральнай канферэнцыяй ЮНЕСКА ў лістападзе 1999 года і адзначаецца кожны год з лютага 2000 года дзеля спрыяння моўнай і культурнай разнастайнасці і шматмоўю. Гэтая дата была абраная ў знак памяці пра падзеі 21 лютага 1952 г., калі ў Дацы, сталіцы Бангладэш, ад куль паліцыянтаў загінулі студэнты — удзельнікі дэманстрацыі ў абарону сваёй роднай бенгальскай мовы, якую яны патрабавалі прызнаць адной з дзяржаўных моў краіны.

НАША УЛАДА

# ЦАРСКАЕ СЯЛО ДРАЗДЫ: ХТО Ў ІМ ЖЫВЕ

Побач з рэзідэнцыяй «Дразды» Аляксандра Лукашэнкі, на беразе Свіслачы на паўночным захадзе Мінска, за апошнія 10 гадоў вырас утульны катэджавы пасёлак. На некалькіх квадратных кіламетрах тут можна сустрэць цяперашняга і былых прэм'ераў, старшынь палатаў, міністраў, бізнэсмэнаў, хакеістаў ды іншых няпростых беларусаў.

Гісторыя гэтага клубнага пасёлка пачалася ў сярэдзіне 2000-х, калі многім чыноўнікам надышла прапанова пабудаваць на выгадных умовах катэдж непадалёку ад рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі.

Кошт будаўніцтва быў параўнальна невысокім, да таго ж, можна было ўзяць крэдыт. Інфляцыя, дзве дэвальвацыі — усё гэта зменшыла фактычную канчатковую цану.

**Як стаць мільянерам**

У Расіі вядомасць атрымаў дачны кааператыў «Возера». Ён быў створаны ў 1996 годзе з удзелам Уладзіміра Пуціна, тады чыноўніка ў пецярбургскай мэрыі. З цягам часу ён стаў кіраўніком дзяржавы, а ягоныя «азёрныя» кампаньёны — міністрамі ці бізнэсоўцамі-мільярдэрамі.

Беларусы з Драздоў да мільярдэраў яшчэ не дараслі, але даляравымі мільянерамі іх робяць самі гэтыя дамы. Катэджы на гэтых вуліцах прадаюцца ад $1,5 мільёна з голымі сценамі да $2,5 мільёна з поўным аздабленнем. Столькі каштуе шанец стаць суседам Уладзіміра Канаплёва ці Юрыя Чыжа.

Нават пры змене ўлады ці ў выпадку раптоўнай адстаўкі жыхары Драздоў змогуць забяспечыць не толькі сваіх дзяцей, але і ўнукаў, і праўнукаў, проста прадаўшы дом. Не дзіва, што нават адстаўнікі накшталт былога міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава ці былога кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Урала Латыпава не спяшаюцца збываць элітную нерухомасць, хоць даўно перабраліся ў Маскву.

**Месца для выбраных**

Уся тэрыторыя Драздоў ужо забудавана, больш разрастацца няма куды. У іх пад 150 катэджаў.

Залатыя кварталы пачынаюцца адразу за Святапакроўскай царквой на праспекце Пераможцаў. У яе гонар галоўная вуліца Драздоў называецца Пакроўскай. Яшчэ нядаўна на картах яна была падпісана як Срэбнае кальцо. Суседнія завулкі маюць адпаведныя назвы — Агатавы, Ізумрудны, Залаты… У дадатак да апошняга ёсць яшчэ і Залатая вуліца.

«Месца для выбраных» — так называюць гэты раён у буклетах рыэлтараў. Наўпрост пасярод вуліцы тут можа стаяць міліцэйскі пост, а на скрыжаваннях адвольна раскіданыя дарожныя знакі «Уезд забаронены», якія не дазваляюць заязджаць сюды нікому, апроч гаспадароў. Выпадковых людзей тут не чакаюць.

**Розныя ўзроўні сакрэтнасці?**

Інфармацыя пра тое, хто жыве на завулках Агатавым і Ізумрудным, а таксама вуліцы Рачной, ёсць, як аказалася, у адкрытым доступе.

Жыхары суседніх Азёрнага і Пакроўскага завулкаў знаходзяцца — выпадкова ці не — на іншым узроўні сакрэтнасці. Звестак пра тое, каму належыць той ці іншы катэдж у тых завулках, няма. Але вядома, што акурат там месціцца дом, напрыклад, былога старшыні палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Канаплёва, які цяпер узначальвае Федэрацыю гандбола Беларусі. Непадалёку пражываюць і іншыя ўплывовыя людзі — Лідзія Ярмошына, Уладзімір Макей, Наталля Пяткевіч.

Каб не парушаць таямніцы прыватнага жыцця, мы не называем канкрэтных адрасоў уласнікаў катэджаў.

Зрэшты, мы самі здзівіліся, што інфармацыя пра тое, каму належыць які будынак, ёсць у адкрытым доступе....

**...Еўропа па-савецку**

У савецкія часы наменклатура атрымлівала без чаргі трохі большыя кватэры. Цяпер гэта вялікія дамы.

У савецкія часы чыноўнікі жылі ўперамежку з дзеячамі культуры і навукі. Цяпер — амаль выключна з бізнэсоўцамі і спартоўцамі.

Калі параўнаць з ладам жыцця топ-чыноўнікаў і бізнэсоўцаў Расіі ці Украіны, беларускія чыноўнікі і гаспадарнікі жывуць нашмат сціплей. І памеры дамоў меншыя, і не афішуюць яны сваёй заможнасці. Таго патрабуюць нормы этыкі, якія не раз публічна агучваў Лукашэнка: «не выстаўляць багацця напаказ». Але ж дамы ў Драздах дарагія: з нятанных матэрыялаў, з немалымі па гарадскіх мерках участкамі. І галоўнае — у супердарагім месцы, каля праспекта Пераможцаў.

Але ў параўнанні са Швецыяй, Чэхіяй ці Літвой выглядае такое Царскае сяло дзіўнавата.

Па-першае, там не прынята, каб улада належала нейкай касце, якая нават жыве ў асобных пасёлках. Па-другое, сам працэс адначасовага будаўніцтва чыноўнікамі і бізнэсмэнамі катэджаў у адным пасёлку стаў бы аб'ектам грамадскай увагі.

Пасёлак Дразды можна з поўным правам назваць Царскім сялом. І па багацці, і па спосабе яго стварэння. Фактычна, яго жыхары атрымалі свае дамы ад «цара». Аляксандр Лукашэнка стварыў, зляпіў гэтую эліту, злучыўшы разам чыноўнікаў і бізнэсоўцаў. І пасяліў побач з сабой.

**Колькі зарабляе абслуга ў Драздах?**

Мінскія агенцтвы занятасці часам вывешваюць аб'явы аб пошуку нянькі ў нейкі з катэджаў ў Драздах. Што ўваходзіць у абавязкі найманага работніка і колькі за гэта плацяць?

Вось адна з аб'яваў: «Сям'я запрашае на працу ў Дразды няньку для дзяўчынкі 7,5 года. Графік працы — панядзелак-субота, працоўны дзень з 11.00 да 19.00. У абавязкі ўваходзіць прыгатаванне ежы для дзіцяці (абед і вячэра) і кармленне, выгул сабак, догляд за дзіцячым гардэробам. Часам трэба дапамагаць домработніцы па гаспадарцы і набываць прадукты разам з кіроўцам».

Выстаўленая аплата складае $5 за гадзіну. За месяц такой працы нянька можна зарабіць каля $1000.

Як вынікае з аб'явы, у доме працуюць хатняя работніца, кіроўца, нянька і рэпетытар. Гэта стандарт жыцця нават не сярэднестатыстычнага еўрапейца, а самых заможных сем'яў. ( у скарачэнні)

**Ягор Марціновіч, "Наша Ніва"**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197.
Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 27.02.2013 у 19.20.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцый аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.